RASPAČYNAJEM SIERYJU STARONAK PAMIACI, PRYŚVIEČANUJU ŽNIŠČANYM POMNIKAM BIEŁARUSKAJE ARCHITEKTURY. SIOŃNIAŠNIAJA STARONKA ADVIEDZIENA MIENSKU. NA VOKŁADCY VYJAVA JEZUICKAHA KAŚCIOŁU.



CARKVA ŚV. DUCHA



DAMINIKANSKI KAŚCIOŁ



RATUŠA



BIENIEDYKCINSKI KAŚCIOŁ

# ЛЕЎ ГАРОШКА – ДЗЯЦІНСТВА І ЮНАЦТВА

Леу Гарошка нарадзіуся 26 лютага і9іі году у весцы Трашчыны,у павеце Стаупецкім. Ахрышчаны быу у царкве у Турцы. Сям'я Харашкоу (гэтак калісьці на зываліся Гарошкі ) афіцыйна была праваслаунай, хаця жылі у ей яшчэ традыцыі вуніі. Асабліва дзед будучага сьвятара быу чалавекам набожным,сьпявау вуніяцкія песьні і захоувау традыцыі „старой веры". Не без уплыву на душу малога Льва — ды не толькі яго — было і тое,што далекія занеманскія сенакосы яго бацькі стыкаліся з Дзярэчынцамі,якія прасла віліся на усю Беларусь сваею стойкасьцю у абароне вуніі перад царскім прасьледваньнем. іншай харак тэрнай рысай сям'і Льва была цяга да ведау,якую зда бывалі рознымі магчымымі спосабамі,а найперш цераз самаадукацыю. Бацька яго Юры вучыуся за ка валя,потым,калі пайшоу у маскалі,скончыу там фэль чарскую школу. Гэта дало яму магчымасьць крышку лепш уладзіцца жыцьцева і шмат памагаць у няшчась ці другім, асабліваэу часы войнау. Зноу жа бабка айца Льва зналася на акушэрскіх справах ізбыла зьбіраль ніцай лекавых зелак.

Скончыушы памысна сямігодку у Міры,Гарошка жа дау трапіць у тэхнічную школу у Вільні,аднак хаця і здау экзамены, яго туды не прынялі дзеля дрэннага лекарскага пасьведчаньня аб стане здароуя. Сумным быу юнак,калі зноу мусіу вяртацца дамоу. Не пакі нуу аднак думкі,каб не вучыцца далей. Наступнага году здае экзамены у Беларускую Наваградзкую Гім назію.

Пэрыяд здабываньня сярэдняй асьветы,хаця паводле сваей натуры есьць пераходным,аднак вельмі важным у жыцьці чалавека. У гэтым часе ен дасьпявае не толь кі інтэлектуальна,але таксама псіхічна і фізічна.

Айцец Архімадрыт Леу ад маленства пачувау сябе бе ларусам. У хаце яго дзеда быу добра ведамы твор „Тарас на Парнасе",а да бацькі прыходзілі беларус кія газэты з Вільні,сярод якіх найбольш запамята лася дасьціпная „Маланка".

У беларускай гімназіі,міма розных цяжкасьцяу і недахопау,для чуллівай душы юнака абставіны сьве дамай беларускай атмасфэры былі дастаткова спрыяль ныя,каб тут залажыць на зауседы моцныя фундаман ты для далейшага зацікауленьня сваей краінай,еінай культурай і змаганьнем за гэтыя цэннасьці. У сваіх успамінах айцец Леу так піша аб Наваградку і бела рускай гімназіі: „Для узгадаваучае працы Навагра дак меу шмат выняткова спрыяючых даных. Гэта-ж горад з багатым гістарычным мінулым: гэта першая сталіца Вялікага Літоускага (у сеньняшнім значэнь ні Беларускага ) Княства. Узгорак Міндоуга,Замкавая гара з руінамі магутнага замку,Барысаглебауская і Фарная Цэрквы,недалекая Літвінка,цікавыя архэ алагічныя знаходкі пад-час розных раскопкау — усе гэта жывыя сьведкі слауных старонак беларускае гіс торыі,якія кожнаму беларусу наагул,а вучням бела рускае гімназіі у асаблівасьці маглі прамауляць сва ім нямым маучаньнем больш чым пісаным словам. Гэтыя пачаткі былі нязвычайнымі настаунікамі,ад якіх можна было навучыцца любіць родны край і на род.

Я вучыуся у гімназіі як-раз тады,калі яна перажы вала свой лепшы час. Лік вучняу павялічвауся з году у год і стары наняты будынак на рагу рынкавае плош чы станавіуся зусім нездавальняючым для яе патрэ бау і дырэкцыя парабіла захады,каб мець уласны ад паведны будынак. Напачатку і929 году быу створаны Камітэт Будовы Гмаху Беларускае Бурсы у Наваг радку. Старшынею яго згадзілася быць старасьціха Т.Грынеуская,а заступнікам старшыні быу адвакат Павал Сьвірыд. Камітэт адразу энэргічна узяуся за працу. Настаунікі і вучні хадзілі па ваколічных вес ках з падпіснымі лістамі. Ня гледзячы на беднасьць сялянства ахвярнасьць была вялікая і ужо да восені распачалі будову гмаху".

Дырэктарам гімназіі быу сп.Янка Цеханоускі,ен-жа быу і настаунікам беларускай літаратуры і француc кай мовы. іншыя настаунікі былі Аляксандар Дані левіч А.Мілоу. Ад і930 году вучыу біялегію і пры родазнауства др.Аляксандар Орса, а настаунікам гіс торыі быу М.Чатырка. Хорам і аркестраю кіравау кампазітар Антон Валынчык. Слабым пунктам нажаль сярод прадметау былаэ рэлігія,якой вучыу а.Васіль Бабкоускі,пазьнейшы архібіскуп Бэнэдыкт. Ен ужы вау паусюдна расейскую мову насуперак жаданьняу вучняу.

Наваградзкая гімназія былаэ прырода-матэматычнага тыпу,коэдукацыйная. Большая частка вучняу жыла у бурсах. Харчаваліся вельмі бедна. Таксама недахоп кніжак давауся у знакі. Гімназіст Гарошка,каб за рабіць хоць крыху грошау,давау лекцыі слабейшым вучням з польскай наваградзкай гімназіі.

Да матарыяльных цяжкасьцяу вучняу даходзіла яш чэ іншая: сьляджэньне тайнае і яунае паліцыі не толь кі за беларускімі дзеячамі і настаунікамі,але так сама і за вучнямі.

У і928 годзе зарганізавауся у гімназіі Вучнеускі Гурток,які рыхтавау беларускія прадстауленьні і часта ладзіу так званыя суботнікі. Адным з больш дзейных кіраунікоу такіх суботнікау быу Архімад рыт Леу. У і93і годзе Леу Гарошка разам з і3 сябрамі здау з вельмі добрым вынікам — як першы сярод вуч няу — матуральны экзамен.Было тады яму роуна 20 гадоу. •

Паводле *"Радые Ватыкану"*

## ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЗБРОІ

# *АРТЫЛЕРЫЯ*

*Сеньня мы распачынаем новую руб рыку — да гісторыі беларускай зброі. і пачынаем яе з артылерыі.*

*Упершыню летапісы паведамілі пра беларускую артылерыю у і382 ро ку,але то былі яшчэ прывазныя гар маты. Але ужо праз нейкі час Вітаут заклау у Вільне адмысловы варш тат,дзе,мажліва, і сам завіхауся ля горна. Не усе яшчэ кветкі уплеце ныя у вянок славы гэтага дзяржау цы,бо то ж ен сярод першых ва Ус ходняй Эуропе,апярэдзіушы задзірлі вых ляхау, распачау вытворчасьць сва ей артылерыі,і ці не першым зас тасавау гарматы у палявой бітве. Ужо пад Грунвальдам беларускія ха ругвы разам з ляхамі мелі да сот ні гарматау.*

*Натуральна,што артэлірыйская справа на Беларусі няспынна разьвівалася. Неблагія зносіны з гусітамі адкры лі для беларускага гаспадарства леп шыя узоры эурапейскай палявой ар тылерыі. Ваенна-тэхнічны поступ Эу ропы бачыуся ва усе большай раз маітасьці цяжкіх і легкіх гарма тау. З такою зброяй Вялікае княс тва Літоускае патрапляла стаць ад ной з наймагутнейшых дзяржавау эу рапейскага абсягу.*

*З ваеннай калатні,што мусіла стаць перажытасьцю Беларусі,этапна вылу чаецца 8 верасьня і5і4 року,калі дзеілася знакамітая бітва пад Вор шаю. Дзеля бліскучай перамогі гет*

*мана Астроускага і Юрага Радзіві ла тут ці не найбольш зрабілі лег кія гарматы.*
*усе больш відавочнаю рабілася пат рэба у стварэньні уласнай людвісар ні для масавага вырабу гарматау. Такая гарматня паустала у Вільні праз тры дзесяцігодзьдзі па Аршан скай бітве стараньнямі вялікага кня зя Жыгімонта Старога. Слава яе разь неслася імгненна. Ужо праз колькі рокау кракаускія майстры каралеу скай людвісарні адлівалі фальконы „накшталт віленскіх". Віленская збраеуня выдавала па і8 і болей гар матау у дзень.*
*Аднак у і7 ст. пачауся паступовы занянад беларускай артылерыі. Вык лючэньнем стала хіба утварэньне у і632 року асобных карпусоу ар тылерыі кароннай і беларускай. Ге нералам артылерыі княства прыз начылі беларуса Мікалая Абрамо віча. На гарматах ягонага корпуса цяпер зьмяшчалася толькі „Паго ня" (раней яшчэ і „Арол"). У гэты ж час беларускі шляхціц з Наваг радчыны Казімір Семяновіч для усей Эуропы стварыу капітальную працу „Вялікае мастацтва артыле рыі" і набыу імя найбуйнейшага вучонага-зброязнауцы і7 ст.*
*Але выбухнула найцяжэйшая вайна у гісторыі Беларусі,калі загінула 70% усяго насельніцтва,а па абса лютных лічбах столькі ж колькі пад час 2 Сусьветнай вайны. Пасьля тае вайны уся гаспадарская артыле рыя была у жахлівым стане. Не тычылася гэта бадай што адных Ра дзівілау. Таму й выстаяу Нясьвіж скі замак у і654 і і659 роках,бо мог адбівацца ад ворага з сотні пушак аднrealчасна. Па адступленьні рускіх Багуслау Радзівіл заклау новую людвісарню у Слуцаку і, відавочна,аднавіу дзейнасьцьнясьвіж скай.Прауда для краіны у гэтым не было вялікай карысьці,бо ра дзівілауская зброя і ахоувала ад но гонар ды уласнасьць Радзіві лау.*
*Новым выпрабаваньнем была швэд ская вайна. Карл і2 ажно млеу ад гарматау. Што не мог адправіць у Швэцыю – зьнішчау на месцы. За хапіушы Нясьвіж,барбары не спыні ліся перад непауторнаю прыгажось цю радзівілаускіх пушак:частку заб ралі з сабою,а 2і – расплавіялі.*
*Па швэдскай вайне змарнела зброя Беларусі,асабліва артылерыя. У другой палове і8 ст. руплівасьць Карла Радзівіла („Пане Коханку") на нейкі час яшчэ удыхнула жыць це у Нясьвіжскую гарматню. Пау стала нават яго новая людвісарня ва Урэччы. У Нясьвіжы тады на кож ным бастыене яшчэ месьцілася па шэсьць,а разам у замку зьбірала ся да 70 някепскіх гарматау. Толь кі не сьведчыла цяпер пра сілу гэ тае халоднае,беспатрэбнае жалеззе.*
*Апошнім подыхам агнявой варты старой Беларусі зрабіліст дні кась цюшкаускага паустаньня. У магут ных печах Вішнева плавіуся чы гун,зь якога тутака ж адлівалі гар маты,і яны,не пасьпеушы як сьлед асьцюдзіцца,тымчасова уступалі у змаганьне за Свабоду за Бацькау шчыну.*

## БЕЛАРУСКіЯ ГАРМАТЫ 16 СТАГОДЗЬДЗЯ



Па матэр ялах Г.Сагановіча



*УЛАДЗіМіР ЖЫЛКА*

Кал і сябры гудзяць нас згубаю
і ворагі прарочаць скон,—
Тады к Табе,о В ільня любая,
Прыводзяць згадк і у палон.

У ма іх лятунках ты —— уладарная,
Пануеш ты,харашыня,—
Завулкау сон і ц іш кляштарная,
В ільл і празрыстай глыбіня;

Вял ікай вул іцы экзотыка,
Тэатры,к іно,шп італ і;
і мал ітвенна узнос іць готыка
Да неба тонк ія шпіл і.

Святая Ганна — спеу ,напеунасцю
Салодка узрушаны усягды;
А поруч з б ізантыйскай пэунасцю
Царква прысела ля вады;

Увечар за гарой трохкрыжнаю
Палае захаду пажар,
Як знак,што вел іччу аблыжнаю
Яна не выкл іча ахвяр;

і плюск В ілейк і,хвал і ветрыка
Люляюць Бернардынск і сад;
і м ігацяць праз ноч элэктрыка
У зацемках меск іх шалычсад;

Плыве павулках пыха панская,
Распуста,блуднасць і мана;
і ярасць жорсткая,паганская
Бл іскае у вочах л ітв іна.

А там,па—над мурам і даун ім і,
Дзе места усенькае в ідно,
Ру іна думам і дзяржауным і
Гадае там:чые яно?

Алеу ужо лес рукой наух ільнаю
Загад вызначвае з вякоу:
Усе магутней б'е над В ільняю
Прыбой нямоукнучы з палеу...

Усе пераможней нестрыманае
Стых і і шум і буры круг...
О места роднае,каханае,
Цябе залье грымотны рух!

**М-С**

Кал і я пляц саборны прам інаю,
і бачу,як на замкавай гары
Л ітоуск і сьцяг да гэтае пары
Над вежай Гедым інавай луняе,
Я іншы сьцяг у смутку успаи інаю,
Што тут лунаць пав інен угары.
Бялей ен ад бярозавай кары,
і жычка усьцяж яго перац інае.
Да сэрца краю,да красун і В ільн і
Я зноу і зноу вяртаюся наух ільна,
Каб зьведаць,што пячэ мяне знутры.
Скажы мне ,В ільня,хто твой сын законны?
Скажы,як разагнаць твой одум сонны,
Скажы,пра што маучаць твае муры.

*МАКСіМ БАГДАНОВіЧ*

Вулк і В ільн і з іяюць і гулка грымяць!
В ір людзк і скрозь зал іу паясы тратуарау,
Бл ішчаць вокны,л іхтарн і у гары з іхацяць
і гараць аганьком вочы змучаных тварау!

А завернеш у завулвк —— ен цесны,крывы;
Цемны шыбы глух іх,старасьвецк іх будынкау;
М іж каменьням і мох і сьцябл інк і травы,
і на вежы,як круглае вока савы,
Цыферблят — п ільны сьведка м інулых учынкау.

Ц іша тут.Маучал іва устал і і сьняць
У небі копулы,брамы,байн іцы і шп іці;
Грук хады адз інокай здалеку чуваць,
Часам мерныя удары звана задрыжаць
і замоукнуць,памкнуушы ад старай зван іцы.

Успамян і мае сэрца,даунейшыя дн і!
Па загаду бурм істра усе,як належэ,
Зачын іл і ужо вокны,загас іл і агн і..
Варта вулкай прайшла... і ня сьп ім мы адны —
Я,ды чорны кажан,што шнуруе ля вежы.

## С.СОКАЛАУ-ВОЮШ

Ажываюць крокі твае
У цішы начной,
І лятарня кідае сноп
Промняў залатых,
І, здаецца, ёсць на зямлі
Толькі мы з табой,
Твой стары, як свет, лабірынт
Вулачак пустых.
Вільня заснула зноў,
Ды ў яе вачах
Не пагас агонь,
Тут, ля старых муроў,
Запаліла кроў
Мне яе далонь.
І гучыць паўсюдна матыў
Даўняе імшы,
І на бітву клічуць званы,
Страціўшы спакой,
І гараць надзеі агні
У маёй душы,
Жалю і спагады няма,
Больш няма у ёй.
Вільня заснула зноў,
Ды у яе вачах
Не пагас агонь,
Тут, ля сівых муроў,
Запаліла кроў
Мне яе далонь.



**3 траўня споўнілася 200 рокаў Канстытуцыі Рэчы Паспалітай,згодна якой Вялікае княства Літоўскае губляла аўтаномію й зьлівалася з Польшчаю ў адзіную дзяржаву. Праз шэсьць рокаў мы будзем адзначаць яшчэ адны сумныя угодкі — 300 рiчча забароны ужываньня беларускай мовы у дзяржаўным справаводстве Вялікага княства Літоўскага. Але падмуркі для ўсяго гэтага закладваліся раней,а менавіта у жніўні 1385 року,калі была падпісаная славутая Крэўская вунія. Сеньня мы зьмяшчаем поўны тэкст пагадненьня,упершыню перакладзены на беларускую мову Вольгай Лапіцкай.**

# КРЭЎСКАЯ ВУНІЯ

Мы,Ягайла зь міласьці божай Вялікі князь Літоўскі,пан Русі і яе нашчадак законны,паведамляем усім,каму належыць і каторыя гэтае пісьмо будуць бачыць,тое,аб чым нам паведамілі з боку найясьнейшай пані,зь міласьці божай каралевы вэнгерскай,польскай,далмацкай і г.д. шляхетныя і паважаныя мужы : ксенз Стэфан — настаяцель ханадэнскі,Уладзіслаў Kaкаса дэ Каза,каштэлян завіхоўскі і Крыстын уладар Казімірскі. На пачатку гэтага паведамілі,як бласлаўенны князь Літоўскі Ягайла накіраваў сваіх урачыстых паслоў наперад да паноў польскіх,а затым да яе каралеўскае вялікасьці.Аднак тыя паслы,якія былі прызначаныя для яе каралеўскае вялікасьці,узялі з сабою вярыцельныя граматы ад галоўнага і кіруючага пасла найсьвяцейшага Скіргайлы,брата,брата Вялікага князя Ягайлы,які для вядомых прычын асабіста перад яе маестатам каралеўскім прадстаць ня мог.
Паслы яго,князь Барыс і Ганка стараста віленскі,прадстаўшы перад каралевай вэнгерскай,так справу тлумачачы казалі:„Шмат імпэратараў,каралеў і князёў жадала узгадніць вечны сваяцкі саюз з тым—жа Вялікім князем літоўскім, аднак усямоцны Бог захаваў яго для асобы вашай каралеўскай міласьці.Дзеля гэтага,найясьнейшая пані,споўні гэтае збавеньне даручэньне і прымі вялікага князя Ягайлу сябе сынам і аддай яму у замужаства самую каханую сваю дачку Ядзьвізю,каралеву польскую.Спадзяемся, што з гэтага саюзу будзе хвала Богу,збаўленьне душам,гонар людзям і павялічэньне каралеўства.
Пакуль тое,аб чым мова, да канца выкананьня дойдзе,Вялікі князь Ягайла з усімі сваімі братамі,яшчэ не ахрышчанымі,таксама са сваякамі,з шляхтаю,памешчыкамі большымі і меньшымі,у яго землях пражываючымі,хоча,жадае і імкнецца прыняць веру каталіцкую сьвятога Рымскага касьцела. Не маглі гэтага дасягнуць да яго,неглядзячы на моцныя намаганьні,многія імпэратары і розныя князі,таму што усемагутны Бог гэтую славу захаваў для вашай каралеўскай вялікасьці.
У моц і рэчаіснасьць гэтага абяцае Вялікі князь Ягайла сабраць і аддаць усе свае скарбы для пакрыцьця страт,якія пацярпелі як Польшча так і Літва,калі толькі каралева вэнгерская дачку сваю Ядзьвігу,каралеву Польскую,шлюбам вясельным зьядна́е зь ім.
Вялікі князь Ягайла абяцае ўсяму,заручаную каралевай вэнгерскай і князем Аўстрыі,мяноўна,двакроць сто тысяч флерынаў,сабраць і выплаціць.
Той—жа Вялікі князь Ягайла абяцае і заручаецца ўласнымі выдаткамі і стараньнямі вярнуць каралеўству Польскаму усе краіны,кім бы яны ні былі раней адабраныя і забраныя.
Той—жа князь Ягайла абяцае вярнуць ранейшую волю усім хрысьціянам,асабліва людзям абодвух полаў зь зямлі польскай,звычаем ваенным забраным і пераселеным,а то так,што кожны або кожная зможа ісьці туды,куды пажадае. і у канцы той жа вялікі князь Ягайла абяцае землі свае літоўскія і рускія на вечныя часы узьяднаць з каронаю польскаю.
Мы,мяноўна,абяцаючы вялікі князь літоўскі Ягайла,вышэй мянаваныя пасольскія паведамленьні даныя і прадстаўленыя ад імя нашага панам каралеўства польскага праз памянутага Скіргайлу,брата нашага любімага,роўна як на абяцаньні,зробленыя найясьнейшай каралеве вэнгерскай Альбжэце высланымі ад таго—ж брата нашага упаўнаважаных,у прысутнасьці паслоў панны каралевы вэнграў,так іэпалякаў,да нашай высокасьці накіраваных,разам з братамі нашымі літоўскімі Скіргейла,Карыбут,Вітольдам, Ліхвенам,таксама ад імя іншых братоў,прысутных і адсутных,згаджаемся і паведамляем гэта як названай паньне каралеве,так і памянутым панам каралеўства польскага; гэтыя—ж паведамленьні пасольскія наказалі замацаваць пячаткамі нашымі і нашых братоў і тожсамасьць ўваусіх сьцьверджаем.
Даны у Крэве,у панядзелак,папярэдні усьпеньня найсьвяцейшай Марыі Дзевы (14 жніўня рэд.) рока гасподня 1385—га.

## КАНКРЭТНЫЯ ФОРМЫ ДЗЕЙНАСЬЦІ

Канкрэтнымі формамі дзейнасьці Рады Эўропы былі:
— распрацоўка і40 канвенцый і пагадненьняў,больш шасьць зь якіх адкрыта і для краінаў не сябраў Рады Эўропы;
— выпрацоўка парадаў для краінаў — сябраў Рады Эўропы па актуальным пытаньням;
— праведзеньне агульнаэўрапейскіх кампаній грамадскага значэньня ( па ахове наваколься,жывельнага сьвету,захаваньню архітэктурных помнікаў і г.д.).

## ПРАВА ЧАЛАВЕКА

### УСЕАГУЛЬНАЕ ПРАВА ЧАЛАВЕКА.

Агульнаэўрапейская Канвенцыя па правах чалавека распрацаваная у і950 року,наладжвае эфектыўную сыстэму кантроля й аховы правоў чалавека,ажыцьцяўляемую дзьвумя ворганамі:Эўрапейскай Камісіяй і Эўрапейскім Судом па правах чалавека. Любы чалавек, пражываючы у Эўропе і лічушчы сябе абмежаваным у сваіх правах,гарантуемых Канвенцыяй,можа падаць скаргу у агульнаэўрапейскую інстанцыю,калі ен вычапаў усе шляхі абароны сваіх правоў ва уласнай дзяржаве.
Кожная справа (з і950 року іх налічвалось больш і7 тысячаў),як правіла,разглядваецца на двух узроўнях:
— Перш на перш Камісія (складаюшчаяся зь незалежных экспертаў—юрыстаў) вырашае пытаньне пра тое, ці трапляе дадзеная справа пад кампетэнцыю агульнаэўрапейскай Канвенцыі па правах чалавека; у выпадку станоўчага вырашэньне,гэтая Камісія пасьля праверкі фактаў намагаецца вырашыць праблему „ласкава" з агульнай згоды; калі гэта не атрымліваецца,справа перадаецца у Камітэт Міністраў Рады Эўропы альбо у Эўрапейскі Суд,рашэньні якога не падлягаюць абскарджэньню. Эўрапейскі Суд паўнамоцны прыняць рашэньне пра выдачу хадайнічаючаму грашовай кампенсацыі.

— Камітэт Міністраў Рады Эўропы валодае таксама паўнамоцтвамі кантраляваць выкананьне рашэньняў Эўрапейскага Суда.

### САЦЫЯЛЬНЫЯ і ЭКАНАМіЧНЫЯ ПРАВЫ

Эўрапейская Хартыя па сацыяльна—эканамічным правам, выпрацаваная у і96і року,у дадатак да грамадзянскіх і палітычных правоў,гарантуемых Эўрапейскай Канвенцыяй па правах чалавека,уключае ахову сацыяльных і эканамічных правоў. Яна гарантуе выкананьне такіх фундаментальных правоў,як:права на працу, права на роўную аплату,права на сацыяльнае страхаваньне й мэдычную дапамогу,права на прафесійную падрыхтоўку,права на прафесійныя саюзы,права на калектыўныя перамовы й права на страйк. Хартыя прадугледжвае таксама серыю сацыяльных і эканамічных мераў,ахоўваючых права сем'і.

### КОДЭКС САЦЫЯЛЬНАГА ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЯ

Гэты Кодэкс,распрацаваны у і964 року,нядаўна перагледжаны і дапоўнены,фіксуе мінімальныя страхавачныя гарантыі у розных сфэрах сацыяльнага забесьпячэньня.

## БЯСЬПЕКА ЖЫЦЬЦЯ

### БАРАЦЬБА З АКТАМі ГВАЛТУ НА СТАДЫЕНАХ

Канвенцыя па барацьбе з актамі гвалту на стадыенах, выпрацаваная пасьля трагедыі і985 року на стадыене Гэйзель у Брусэле,мае за мэту папяраджэньне актаў гвалту пад час правядзеньня міжнародных сустрэч па футболу,а таксама прадугледжвае меры,забясьпечваючыя бясьпеку гледачоў як на,так і паза межамі стадыену.

### БАРАЦЬБА З ТЭРАРЫЗМАМ

Канвенцыя па барацьбе з тэрарызмам,выпрацаваная у і977 року,уводзіць навіну у вобласьці міжнароднага карнага права,,якая заключаецца у тым,што некаторыя тэрарыстычныя акцыі не разглядваюцца як палітычныя — з кропкі гледжаньня выдачы злачынцаў адпаведным дзяржавам і аказаньня узаемадапамогі у гэтай галіне.

### БАРАЦЬБА СУПРОЦЬ ВЫКАРЫСТАНЬНЯ КАТАВАНЬНЯЎ

Канвенцыя па барацьбе супраць ужываньня катаваньняў,распрацаваная у і987 року,прадугледжвае наведваньне Міжнародным камітэтам незалежных экспертаў месцаў адбываньня пакараньня (без папярэджаньня) і кантроль умоў утрыманьня заключоных.

### БАРАЦЬБА З іНФАРМАТЫЗАЦЫЯЙ ЗЬВЕСТАК ПРЫВАТНАГА ХАРАКТАРУ

Канвенцыя па ахове асобы ад злоўжываньня інфармацыенных службаў,выпрацаваная у і98і року і зьяўляюшчаяся адзіным міжнародным пагадненьнем у гэтай галіне,прадугледжвае ахову асобы ад ад аўтаматызаванай апрацоўцы сродкамі інфарматыкі зьвестак прыватнага характару. Шмат у якіх краінах — сябрах Рады Эўропы яна паслужыла прататыпам выпрацоўкі нацыянальнага законадаўства па гэтаму пытаньню.

## АХОВА ЗДАРОЎЯ

### ФАРМАКАПЕЯ

Эўрапейская Фармакапея,створаная з мэтамі аховы насельніцтва ад ужываньня мэдычных прэпаратаў,ня адпавядаючых агульным нормам ці выробленых з загадзя вядомымі махлярскімі мэтамі,устанаўлівае юрыдычныя нормы,датычушчыеся прыкладна 700 мэдычных прэпаратаў,пачынаючы зь лекавых расьлінаў і хімічных злучэньняў натуральнага ці штучнага паходжаньня й канчаючы вакцынамі для лячэньня людзей і жывелін.

### ПЕРАЛіВАНЬНЕ КРЫВі

Рада Эўропы стварыла сэтку нацыянальных цэнтраў пераліваньня крыві,а таксама адчыніў у Амстэрдаме Эўрапейскі банк замарожанай крыві рэдкіх групаў. У выпадку тэрміновай неабходнасьці сыстэма дазваляе арганізаваць хуткую транспартыроўку крыві паміж усемі краінамі — сябрамі Рады Эўропы.

### БАРАЦЬБА З ТАКСіКАМАНіЯЙ

,,Група Пампіду'',створаная у і97і року і уключаючая адмысловцаў шырокага профілю,ажыцьцяўляе сумесныя мерапрыемствы па пытаньням барацьбы супроць злоўжываньняў і незаконнага гандлю наркатычнымі прэпаратамі,а таксама каардынуе палітыку краінаў —— сябраў Рады Эўропы у гэтай галіне.

### БАРАЦЬБА З ВЫКАРЫСТОЎВАНЬНЕМ ДОПіНГУ

Канвенцыя па барацьбе з выкарыстоўваньнем допінгу у спорце,выпрацаваная у і989 року,фіксуе нормы, рэгламентуючыя выкарыстоўваньне антыдопінгу,і і утрымлівае сьпіс забароненых прэпаратаў.

Працяг у наступным нумары




# РАДА ЭУРОПЫ

## УЗЬНІКНЕНЬНЕ і СКЛАД

Рада Эуропы заснаваная у і949 року і з'яуляецца між урадавай палітычнай арганізацыяй кансультатыунага ха рактару,якая

— аб'ядноувае у сваім складзе 24 эурапейскія краіны з дэмакратычнымі і плюралістычнымі рэжымамі,
— адрозьніваецца ад Эурапейскага Эканамічнага Згуртаваньня,
— мае у якасьці сваей сталай адміністратыунай рэзі дэнцыі Эурапейскую Палату у Страсбургу ( Францыя)

## МЭТЫ

Рада Эуропы дзейнічае на карысьць агульнаэурапей скага адзінства і мае у якасьці асноуных мэтау:

—
абарону правоу чалавека й умацаваньне дэмакратычных плюралістычных рэжымау,
— выпрацоуку мерау дзеля вырашэньне агульных праб лемау грамадскага жыцьця,
— фармаваньне агульнаэурапейскай культурнай ед насьці.

## ПРАЦОУНЫЯ ВОРГАНЫ

Рада Эуропы мае два працоуных воргана:
— Камітэт Міністрау — ворган прымаючы асноуныя рашэньні.Ен складаецца з міністрау замежных спра вау 24 краінау — сяброу Рады Эуропы,акрэдытаваных у якасьці ягоных Сталых Прадстаунікоу. Пры Камі тэце маецца каля і00 экспертных камісіяу,якія вы конваюць свае функцыі на міжурадавым узроуні. Ся род ніх найбольш характэрнымі з'яуляюцца камісіі па правах чалавека,па сродкам масавай інфармацыі, па патрэбах юрыдычнага узаемадзеяньня,сацыяльным і сацыяльна—эканамічным праблемам,па пытаньням адука цыі,культуры й спорту,па праблемам моладзі,аховы здароуя,уласнасьці,навакольнага асяродзьдзя й рэгіяналь ных арганізацый.

— Парламенцкая Асамблея — дарадчы ворган,у якім абмяркоуваюцца актуальныя міжнародныя праблемы. Асамблея складаеццаэз і84 сяброу (і і84 намесьнікау), прадстауляючых 24 нацыянальных парламента,і мае у сваім распараджэньні каля 50 камісій і падкамі сій.Да настаяшчага часу 6 краінау — Балгарыя,Вэнгрыя, Польшча,Чэхаславаччына,Савецкі Саюз і Югаславія — прадстауленыя у Парляменцкай Асамблеі у якасьці краінау,маючых статус "спецыяльнага запрашэньня". Старшыня Асамблеі — Андрэс БЕРК ( Швэцыя ).

Бягучую дзейнасьць абодвух працоуных ворганау ажыць цяуляе Гэнеральны Сакратарыят,на службе у якога зна ходзіцца каля 900 функцыянэрау. Гэнеральны сакратар — Катрын ЛАЛЮМЬЕР (Францыя).

## АФІЦЫЙНЫЯ МОВЫ

Афіцыйнымі мовамі з'яуляюццаэ ангельская й фран цузская мовы.Парляменцкая Асамблея выкарыстоувае у якасьці працоуных мовау таксама нямецкую,італь янскую,гішпанскую,галандскую й партугальскую мовы.

## БЮДЖЭТ

Бюджэт на і99і рок склау каля і00.000.000 экю альбо 690.000.000 французскіх франкау.

## НОВЫЯ ПЭРСПЕКТЫВЫ

### СТАТУС "СПЕЦЫЯЛЬНАГА ЗАПРАШЭНЬНЯ".

Гэты статус створаны Парляменцкай Асамблеяй у і989 року з мэтай паглубленьня сувязей з законатвор чымі органамі краінау Цэньральнай і Усходняй Эу ропы. Краіны,атрымаушыя гэты статус,маюць права дасылаць свае дэлегацыі,прадстауляючыя самыя роз ныя палітычныя плыні,на пленарныя паседжаньні, а таксама на паседжаньні розных камісій Парламен цкай Асамблеі па іх запрашэньню.

### ПАТЭНЦЫЙНЫЯ СЯБРЫ РАДЫ ЭУРОПЫ

Заявы аб прыемезу сябры Рады Эуропы падалі:Поль шча (студзень і990),Югаславія (люты і990) і Чэхас лаваччына (красавік і990). Вэнгрыя стала 24 дзяр жавай — сябрам Рады Эуропы 6 лістапада і990 року.

### „ПРАГРАМА ДЭМАСФЕНА"

Рада Эуропы выпрацавала праграму,атрымаушую наз ву „Праграмы Дэмасфена" (у гонар славутага афін скага аратара й палітычнага дзеяча) маючай на мэце аказаньне дапамогі краінам Цэнтральнай і Усходняй Эуропы у падрыхтоуцы канстытуцыенных,законатвор чых і адміністратыуных рэформау. Праграма праду гледжвае практычнае супрацоуніцтва у розных фор мах:стварэньне сумесных экспертных камісіяу,арганi зацыя падрыхтоучых курсау,навучальных камандзіровак і прадастауленьне стыпендыяу.

# ГІСТОРЫЯ ПАПЯРЭДЖВАЕ: СССР ШКОДНЫ ДЛЯ НАШАГА ЗДАРОЎЯ

ETNAGRAFICNAJA KARTA BIEŁARUSI 1939

The inscription have been sup the author of t

Ethnographical Map of Byelorussia by Inž. V.Rusak, Prague, 1939. The photograph of the original by courtesy of the British Museum.

COUNCIL OF EUROPE

*200 гадоў таму, дзякуючы намаганьням Расейскае імпэрыі, Беларусь была вырвана з эўрапейскай супольнасьці. Тым самым Азія прасунулася яшчэ далей на Захад. Даўно, даўно ўжо прысьпеў час вярнуць нашыя землі ў Эўропу. Але гэта зрабіць немагчыма, пакуль мы самі не ўсьвядомім сябе эўрапейцамі. А таму мы прапануем серыю матэр'ялаў, прысьвечаную сучаснай Эўропе. Натуральна, што найбольшую ўвагу мы будзем зьвяртаць на маладзёжнае пытаньне ў агульнаэўрапейскім кантэксьце.*



На наступнай старонцы першы матэр'ял з серыі, прысьвечаны Радзе Эўропы

Казімір ПРЭНГ

# Суайчыньнічку

– Тату, тату, лезе чорт у хату!
– Дарма, сынку, абы не маскаль!
З народнага

Маскаль як торгне за ляйчыну,
Закрыеш палахліва рот,
Забудзеш мову і Айчыну –
Які ты к д'ябалу народ?!

Нямы і ў леньнікі забраны,
Сьвятыя збэсьціўшы правы,
Ты вернеш нос ад Вострай Брамы,
Бо так загадана з Масквы.

На ўсё ў цябе любоў і згода –
Маскаль ці лях, ці чорт ці бог,
Залезшы ў кайстру да народа,
Ты апляваў усё, што мог.

Прадаў чужынцу хлеб і мову –
„Он ведзь галодны и нагі!“
Прадаў бы лепей бот гумовы,
З уласнай скінуўшы нагі...

І голас твой, да фальшу падкі,
Сабе ж псалёмчыкі пяе...
Ды плюнуць некалі нашчадкі
На трыццаць срэбнікаў твае!

# РАПТУЛЯР

*ВЯРТАЙМОСЯ Ў ЭЎРОПУ*

